# ІСКРА

№ 60 (8483)
СУБОТА
5
ЖНІЎНЯ
2000 г.
Выдаецца
з 1931 г.
Цана 51 рубель

Газета ўзнагароджана
Ганаровай граматай
Вярхоўнага Савета БССР

***Грамадска-палітычная газета Чавускага раёна***


# ПЛАНЫ МАЦУЮЦЦА СПРАВАМІ

**Уладзімір Пузырэўскі,**
**старшыня Чавускага райвыканкома**

Закончылася першае паўгоддзе 2000 года. Некаторыя яго вынікі ўжо друкаваліся ў раённай газеце. Але выконваючы абяцанне рэгулярна інфармаваць насельніцтва раёна аб стане спраў у мясцовай народнай гаспадарцы, ёсць неабходнасць глыбей прааналізаваць дасягнутыя вынікі, спыніцца і на недахопах з тым, каб не паўтараць іх у будучым. Любыя планы мацуюцца справамі. Як складваліся справы ў нашым раёне ў першыя шэсць месяцаў года?

Трэба адзначыць, што сацыяльна-эканамічнае развіццё раёна па многіх параметрах ішло больш высокімі тэмпамі, чым у аналагічны перыяд летась.

У прамысловасці тэмп росту вытворчасці ў супастаўных цэнах склаў плюс 9,1 працэнта да ўзроўню 1999 года, што перавышае планава-прагнозны паказчык бягучага года на 7,1 працэнта. Адметна, што ўсе прамысловыя прадпрыемствы раёна забяспечылі павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці і выкананне прагнозных параметраў.

Найбольш высокіх тэмпаў у вытворчасці таварнай прадукцыі дасягнуў ільнозавод (116,1 працэнта), ААТ "Чавускі масларобча-сыраробчы завод" (110,6), ААТ "Чавускі завод жалезабетонных вырабаў" (108,9 працэнта).

Варта звярнуць увагу, што прыпынена падзенне вытворчасці на ААТ "Чавускі гароднінасушыльны завод" і нават забяспечаны прырост да ўзроўню першага паўгоддзя мінулага года на 7,8 працэнта.

Выпуск спажывецкіх тавараў у параўнанні з першым паўгоддзем 1999 года павялічыўся на 15,4 працэнта (між тым прагнозным паказчыкам на бягучы год прадугледжваўся рост 3 працэнты), у тым ліку харчовых тавараў выраблена больш на 15 працэнтаў, нехарчовых – у 2 разы.

Павялічаны ў параўнанні з мінулым годам выпуск такіх важных прадуктаў харчавання як цэльнамалочныя – на 30,7 працэнта, сыр цвёрды– на 17,6, хлеб – на 0,7 працэнта.

У капітальным будаўніцтве за лік усіх крыніц фінансавання асвоена звыш 550 мільёнаў рублёў укладанняў.

Адным з важнейшых напрамкаў капітальных укладанняў з'яўляецца будаўніцтва жылля. Як вядома, наш раён мае востры дэфіцыт кадраў сельскагаспадарчых прафесій, прычым не толькі, так сказаць, на радавыя пасады, але і на кіраўнічыя, і спецыялістаў. Таму жыллё будуецца і ў райцэнтры, і на сяле. Прадпрыемствамі і арганізацыямі ўсіх формаў уласнасці здадзена за паўгоддзе ў эксплуатацыю 5184 квадратных метры жылля, што складае 62 кватэры. Прычым індывідуальнымі забудоўшчыкамі здадзена 1635 квадратных метраў або 31,5 працэнта ад агульнай колькасці.

А ўвогуле будаўнічымі і рамонтна-будаўнічымі арганізацыямі выканана падрадных работ уласнымі сіламі на 338,2 мільёна рублёў.

За першае паўгоддзе забяспечана выкананне прагноза па платных паслугах насельніцтву. Іх аб'ём вымяраецца сумай у 123 мільёны рублёў, што ў дзеючых цэнах складае 418,4 працэнта, а ў супастаўных – 109 працэнтаў да ўзроўню мінулага года пры планавым паказчыку 100,5 працэнта.

Як жа выглядаюць паслугі ў разрэзе некаторых прадпрыемстваў сферы абслугоўвання? Так, аўтапаркам пры ўсіх складанасцях з матэрыяльнай базай перавезена пасажыраў на 4 працэнты больш, чым за шэсць месяцаў мінулага года. Раённым вузлом электрычнай сувязі ўстаноўлена 178 новых абаненцкіх тэлефонаў, у тым ліку 16 тэлефонаў – ільготнікам, гэта значыць, з частковай або поўнай аплатай за кошт бюджэта ці за кошт Міністэрства сувязі. Прычым 21 новы тэлефон устаноўлены ў сельскай мясцовасці. Тэмп росту аб'ёмаў рознічнага тавараабароту склаў 105 працэнтаў пры прагнозе 102 працэнты.

Прыемна адзначыць, што на прадпрыемствах нашага раёна вырабляецца і экспартная прадукцыя. Гэта сведчыць аб неблагім вытворчым патэнцыяле, які трэба ўмела выкарыстоўваць і далей. Увогуле за першае паўгоддзе з раёна экспартавана прадукцыі на 120,7 тысячы долараў ЗША або ў 3,4 раза больш, чым у першым паўгоддзі мінулага года. Асноўная доля экспарту прыпадае на масласырзавод – 92,5 працэнта. Гэтым прадпрыемствам прададзена за межы рэспублікі сыру цвёрдага 11 тон на 26,4 тысячы долараў, сыру абястлушчанага – 6,3 тоны на 6,2, цэльнамалочнай прадукцыі – 21,2 тоны на 15,2, казеіну тэхнічнага – 20 тон на 64 тысячы долараў ЗША. Уся прадукцыя адпраўлена ў Расію. І гэта своеасаблівы адказ праціўнікам саюза Беларусі і Расіі – як бачна, умацаванне добрасуседскіх адносін з гэтай дзяржавай прыносіць нам адчувальную карысць.

Апроч экспартных паставак раёну даводзіліся некаторыя тавары і сыравіну завозіць з-за межаў рэспублікі. Імпарт склаў 18,1 тысячы долараў або толькі 6,5 працэнта да ўзроўню мінулага года. Як гавораць эканамісты, станоўчае сальда паміж імпартам і экспартам па раёну склала 102,6 тысячы долараў. Заўважу, што за першае паўгоддзе мінулага года раён меў адмоўнае знешнегандлёвае сальда 241 тысячу долараў.

Пакуль наша грамадская сельскагаспадарчая вытворчасць, на жаль, па розных прычынах знаходзіцца на такім узроўні, што ў забеспячэнні насельніцтва прадуктамі харчавання працягваюць важную ролю граць асабістыя падвор'і. Таму пытанню закупу лішкаў сельгаспрадукцыі ў жыхароў раёна мясцовыя ўлады ўдзяляюць пастаянную ўвагу. І гэта дае свой плён. Так, за першае паўгоддзе на 583 тоны або на 32 працэнты больш закуплена малака ў насельніцтва, чым за шэсць першых месяцаў мінулага года; на 13 тон больш або на 37 працэнтаў – закуплена мяса.

Станоўчыя здабыткі ў народнай гаспадарцы раёна сталі магчымымі, дзякуючы намаганням тысяч работнікаў працоўных калектываў розных галін. Асаблівую ўдзячнасць хочацца выказаць кіраўнікам, якія ў няпростых эканамічных умовах здолелі арганізаваць устойлівую вытворчую дзейнасць у сваіх калектывах. Гэта дырэктары: масласырзавода – Рыгор Макаравіч Іванчанка, завода ЖБВ – Уладзімір Іванавіч Буцянкоў, ільнозавода – Мікалай Анісімавіч Сівакоў; старшыня калгаса "Антонаўскі" Мікалай Іванавіч Казінкоў.

Адзначаючы станоўчае, нельга абысці ўвагай і недаробкі. Было б няправільна замоўчваць перад людзьмі, што некаторых паказчыкаў, прадугледжаных у плане-прагнозе, нам не ўдалося дасягнуць.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ТЫДЗЕНЬ ЧАВУСЫ РАЁНА

### НАСУСТРАЧ ВЫБАРАМ

У мінулую сераду ў Крычаве адбылося арганізацыйнае пасяджэнне акруговай выбарчай камісіі Крычаўскай выбарчай акругі № 69, у якую ўваходзіць і Чавускі раён, па выбарах 15 кастрычніка бягучага года дэпутатаў у Палату прадстаўнікоў. На пасяджэнні прысутнічалі і чатыры прадстаўнікі ад нашага раёна. Было выбрана кіраўніцтва камісіі, вызначаны парадак яе далейшай работы. Намеснікам старшыні камісіі выбраны юрыст Чавускага райвыканкома Аляксандр Сяргеевіч Грасюкоў (нумар тэлефона ў Чавусах **2-15-07**).

(Поўнасцю склад камісіі будзе надрукаваны ў нашай газеце).

### ПАВЫСІЛІСЯ ПЕНСІІ

Са жніўня павысіліся пенсіі ўсім катэгорыям пенсіянераў. Калі ў ліпені агульная сума пенсій па нашаму раёну складала каля 260 мільёнаў рублёў, то ў жніўні трэба будзе выплаціць каля 300 мільёнаў рублёў у новым вылічэнні.

Магчыма, кожны канкрэтны пенсіянер хацеў бы больш адчувальнага павышэння, але дзяржава дзейнічае зыходзячы са сваіх эканамічных магчымасцяў. Тым больш, што ў бягучым годзе гэта не першае павышэнне.

### У ДАПАМОГУ ДЗЕЦЯМ

Райвыканкомам прынята рашэнне аб адкрыцці ў Чавусах цэнтра карэкцыйна-развіваючага абучэння і рэабілітацыі асобных катэгорый дзяцей. Маюцца на ўвазе дзеці з дэфектамі мовы, слыху, псіхічнага развіцця. Такіх дзяцей у раёне каля 500. Цэнтр адкрываецца за лік штатнага раскладу, прадугледжанага для сістэмы адукацыі раёна, і не запатрабуе значных дадатковых расходаў.

### ПРАПАЎ ЯШЧЭ АДЗІН ПАРТРЭТ

З раённай Дошкі гонару прапаў яшчэ адзін партрэт – дырэктара завода жалезабетонных вырабаў У.І.Буцянкова.

### САДЫ – ПАД АХОВАЙ

У мінулыя гады сад калгаса "Юны камунар", што знаходзіцца ў межах горада збоч шашы Чавусы-Чэрыкаў каля польскіх могілак быў даступным для любога грамадзяніна. Але нядаўна калгас заключыў дагавор з аддзелам аб'яднання "Ахова" на вартаўніцтва сада. І ўжо некалькі чалавек аштрафаваны за недазволены збор яблык. (Хаця адзначым, што ні агароджы, ні таблічак па перыметру, што сад з'яўляецца калгаснай уласнасцю і ахоўваецца, няма).

### ПРЫЕЗДЖЫЯ РАБОЧЫЯ

Нягледзячы, што ў раёне зарэгістравана каля 250 беспрацоўных, усё роўна некаторыя гаспадаркі запрашаюць у гарачую пару памочнікаў з боку. Так, днямі у раён прыехала група рабочых са Столінскага раёна, якія будуць працаваць на ўборачных работах.

### ХРОНІКА

Начальнікам Чавускага ДРБУ-176 прызначаны **ПІПКО Аляксандр Васільевіч**, які да гэтага працаваў тут жа намеснікам начальніка. Ранейшы начальнік зараз працуе ў ДРБУ Магілёўскага раёна.

## *Лепшыя працаўнікі на жніве*

**( На 3 жніўня )**

**КОРШУНАЎ Сяргей Іванавіч** – камбайнер калгаса "Антонаўскі". На зерневым камбайне МДВ-525 убраў 133 гектары і намалаціў 307 тон зерня.

**ШМІДАЎ Мікалай Паўлавіч** – камбайнер ААТ "Аграсервіс". У калгасе "Ленінскі шлях" на камбайне "Дон-1500" убраў збожжа на 112 гектарах і намалаціў 203 тоны зерня.

**ЛЫНДОЎ Аляксандр Аляксандравіч** – камбайнер калгаса "Раста" ўбраў 79 гектараў і намалаціў 191 тону зерня.

**АКУЛЕНКА Іван Рыгоравіч** – вадзіцель аўтамашыны ГАЗ-53Б калгаса "Антонаўскі" перавёз 259 тон зерня ад камбайнаў.

**ХАЛЬПУКОЎ Васіль Паўлавіч** – вадзіцель аўтамашыны ГАЗ-53Б калгаса "Раста" перавёз 193 тоны зерня.

**ЛУРЫКАЎ Міхаіл Пятровіч** – вадзіцель калгаса "Святло Кастрычніка" на аўтамашыне КамАЗ перавёз 183 тоны зерня.



Так атрымліваецца, што амаль кожны год у ходзе жніва на старонках раённай газеты з'яўляецца здымак камбайнера калгаса "Хацкавічы" Валерыя Іванавіча Сулімава. Сакрэт такога пастаянства ў тым, што, нягледзячы на асноўную працу вадзіцелем, кожную ўборку В.І.Сулімаў садзіцца за штурвал зернеўборачнага камбайна: спачатку гэта былі "Нівы", а зараз – "Дон-1500". І так ажно з 1978 года.

Такі вялікі стаж работы камбайнерам дазваляе В.І.Сулімаву і дасканала рыхтаваць тэхніку да жніва, і хутка і якасна спраўляцца на полі. Звычайна кожны год у яго – адзін з лепшых, а то і лепшы, паказчык па намалотах у калгасе.

Вось і сёлета Валерый Іванавіч першым вывеў свой камбайн на жніўныя палеткі і па намалотах таксама ідзе ўперадзе іншых камбайнераў гаспадаркі. У першыя дні жніва ён адгрузіў на ток з бункера камбайна больш 100 тон зерня. А на момант публікацыі здымка, магчыма, гэты паказчык будзе набліжацца да 200 тон.

**НА ЗДЫМКУ: В.І.Сулімаў.**

**Фота В.ШУМАНСКАГА.**

## *Весткі з палёў*

**Па стану на 3 жніўня ў раёне:**

- на хлебапрыёмны пункт з гаспадарак раёна паступіла 1130 тон зерня;
- убрана шматгадовых траў на насенне 42,1 працэнта;
- узарана пад азімыя 1234 гектары.

## Ход жніва ў гаспадарках раёна

**Даныя на 3 жніўня**

| Назва гаспадарак | Убрана зернев. і з/баб. у% | Ураджайнасць ц/га |
|---|---|---|
| "Раста" | 40,3 | 22,0 |
| "Перамога" | 36,6 | 15,9 |
| імя Ільіча | 22,6 | 16,7 |
| "Іскра" | 22,4 | 18,1 |
| "Антонаўскі" | 21,5 | 22,5 |
| "Ленінскі шлях" | 20,8 | 21,4 |
| "Пяцігодка" | 19,8 | 17,1 |
| "Галавенчыцы" | 17,6 | 25,2 |
| "Праўда" | 13,3 | 27,0 |
| "Св.Кастрычніка" | 13,0 | 24,0 |
| "Серп і молат" | 11,7 | 20,1 |
| "Хацкавічы" | 9,1 | 17,0 |
| "Зара" | 8,6 | 20,4 |
| "50 год БССР" | 8,6 | 16,8 |
| "Звязда" | 8,3 | 20,1 |
| "Асінаўскі" | 7,9 | 15,0 |
| імя Дзяржынскага | 7,8 | 15,2 |
| "Чавускі" | 7,3 | 10,2 |
| "Перадавік" | 3,2 | 14,7 |
| "Юны камунар" | 2,7 | 24,8 |
| "XVIII партз'езд" | 1,5 | 23,3 |
| імя Леніна | 0,4 | 15,0 |
| "Сав.Беларусь" | 0,2 | 10,0 |
| **Па раёну** | **13,1** | **20,3** |

# ПЛАНЫ МАЦУЮЦЦА СПРАВАМІ

(Заканчэнне. Пач. на 1-й стар.).

**Уладзімір Пузырэўскі,**
**старшыня Чавускага райвыканкома**

Што датычыць сферы абслугоўвання, то сур'ёзную заклапочанасць выклікае становішча спраў у спажывецкай кааперацыі раёна. Па рознічнаму тавараабароту Чавускае райпа засталося на ўзроўні мінулага года ці, дакладней, першага паўгоддзя яго. Між тым у плане закладваўся рост па гэтаму паказчыку. У сістэме райпа знізіўся аб'ём выпуску ўласных тавараў на 1,7 працэнта. У прыватнасці, менш выпушчана каўбасных і кандытарскіх вырабаў. План па нарыхтоўчаму абароту выкананы на 85 працэнтаў. З 12 відаў нарыхтовак прагнозны паказчык дасягнуты толькі па 6. Пры ўсім тым па шэрагу тавараў не выкупляліся выдзеленыя квоты.

Дзейнасць райпа на працягу паўгоддзя неаднаразова абмяркоўвалася на пасяджэннях райвыканкома. Пры гэтым адзначалася, што ў раённых кааператараў ёсць не ўключаныя ў справу рэзервы для паляпшэння паказчыкаў. Таму ёсць спадзяванне, што па выніках 9 месяцаў сітуацыя ў галоўнай гандлёвай арганізацыі раёна будзе папраўлена.

Не лепшым чынам выглядае карціна па аказанні бытавых паслуг жыхарам раёна. Хоць быткамбінат на 2 працэнты павялічыў агульны аб'ём паслуг у грашовым вылічэнні, аднак заданні па такіх відах як рамонт абутку, гадзіннікаў, цырульня, фота, хімчыстка не выкананы.

Трэба адзначыць, што аб'ём бытавых паслуг знізілі гаспадаркі раёна, рамонтна-будаўнічае ўпраўленне, тэхнагандлёвы цэнтр "Гарант", райпалівазбыт. Зніжаюцца аб'ёмы грузаперавозак аўтапарка № 10. Слаба асвойваюцца новыя віды паслуг, якія карыстаюцца попытам у насельніцтва.

Вядома, зараз у многіх сферах, асабліва, што датычыць гандлю і тых жа самых бытавых паслуг, у, так сказаць, традыцыйных арганізацый з'явіліся канкурэнты. У канкурэнтным асяроддзі можна выйграць толькі за кошт паляпшэння якасці тавараў і паслуг, за кошт скарачэння тэрмінаў руху тавараў і паслугі да спажыўца, урэшце за кошт больш таннай цаны. На жаль, некаторыя кіраўнікі замест таго, каб за лік памянёных вышэй фактараў "адабраць" спажыўца ў канкурэнтаў, скардзяцца на сапернікаў у органы ўлады.

Прама скажам, пакуль слаба складваліся справы ў сельскай гаспадарцы раёна. Так і не ўдалося спыніць падзенне вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі. З 23 гаспадарак паўгадавы план продажу малака дзяржвае выканалі толькі 12, план продажу жывёлы на мяса – 16.

Безумоўна, на незайздросных паказчыках у жывёлагадоўчай галіне адбіўся і недахоп кармоў у зімова-стойлавы перыяд, і неспрыяльныя ўмовы надвор'я, якія складваліся два гады запар, ды і сёлета нас не песцяць.

Аднак аб'ектыўныя цяжкасці не заўсёды апраўдваюць дрэнную работу – у раёне хапае і выпадкаў неарганізаванасці, парушэнняў элементарных патрабаванняў тэхналогіі. Райвыканком імкнецца кіраўніцтву і спецыялістам падобных гаспадарак даваць адпаведныя ацэнкі, іншы раз справа даходзіць і да рэкамендацый аб звальненні з пасады.

Варта падкрэсліць, што дзяржава і райвыканком, які прадстаўляе органы ўлады на ўзроўні раёна, не пакідаюць калгасы і саўгас сам-насам з эканамічнымі і кадравымі цяжкасцямі. Гаспадаркам аказваецца значная падтрымка з бюджэта. Аднак не ўсе правільна разумеюць такую палітыку і асобныя паступова ператвараюцца ва ўтрыманцаў, забыўшы, што грошы трэба вучыцца зарабляць. Напрыклад, калгасу імя Леніна выдзелена з пачатку года 26,4 мільёна рублёў бюджэтных сродкаў, а ўся выручка ад прадукцыі гэтай гаспадаркі склала меней 19 мільёнаў рублёў. Яшчэ адзін такі "гаротнік" – калгас "Чавускі": сюды накіравана 25,1 мільёна бюджэтных сродкаў, а паўгадавая выручка склала 23,5 мільёна рублёў. Іншымі словамі, укладзеныя ў гаспадарку грошы нават няма чым поўнасцю вярнуць, што сведчыць аб нізкаэфектыўнай вытворчасці ў гэтых і падобных ім гаспадарках.

У якасці станоўчага прыкладу варта назваць калгас "Антонаўскі", дзе атрымана 429,6 мільёна рублёў выручкі, а дапамога з бюджэта аказана толькі на 73,8 мільёна рублёў. Такім чынам, укладанні бюджэта ў гэтую гаспадарку акупляюцца поўнасцю.

Канешне, хтосьці можа сказаць, што "Антонаўскі" – нетыповая гаспадарка, у ім маецца свінагадоўчы комплекс. Але ж трэба мець на ўвазе, што з далучэннем калгаса "1-е Мая" калгас "Антонаўскі" ўжо некалькі месяцаў як стаў якраз тыповай шматпрофільнай гаспадаркай. І яшчэ трэба ўлічваць эквівалентнасць акупнасці бюджэтных сродкаў (хоць у пэўнай ступені і ўмоўнай): у памянёных вышэй дзвюх гаспадарках яна мінусовая, а ў "Антонаўскім" – з перавышэннем больш чым у 6 разоў.

Нягледзячы на пэўныя поспехі ў прамысловасці, капітальным будаўніцтве і сферы паслуг, фінансавая сітуацыя ў раёне застаецца складанай. 27 прадпрыемстваў спрацавалі са стратамі, прычым большая іх частка – у сельскай гаспадарцы, асноўнай галіне раёна. Дэфіцыт фінансавых рэсурсаў прыводзіць да запазычанасці па ўсіх відах плацяжоў і разлікаў.

Недапаступленні ў бюджэт за паўгода склалі амаль 58 мільёнаў рублёў. А гэта грошы, якія можна было б выкарыстаць на сацыяльныя праграмы. Таму, калі дзе што мы не змаглі зрабіць, то вось і ў даных нядоімках крыецца прычына.

Тым не менш, нават нягледзячы на востры недахоп фінансаў, арганізацыі сацыяльнай сферы працуюць у раёне стабільна. Забяспечваецца аказанне медыцынскай дапамогі, завяршаецца падрыхтоўка ўстаноў адукацыі да новага навучальнага года, не дапускаецца затрымак па выплаце пенсій – кожны пенсіянер атрымлівае грошы штомесячна.

Аднак складаная фінансавая сітуацыя не магла не паўплываць і на самую хворую на сённяшні дзень праблему – затрымку выплаты заробку. Гэта з'ява назіраецца і ў гаспадарках, і ў райжылкамунгасе, і ў ПМК-278, і ў райбыткамбінаце, і на гароднінасушыльным заводзе. Райвыканком пастаянна шукае ў межах сваіх паўнамоцтваў і магчымасцяў шляхі вырашэння праблемы, але рашыць яе, як гаворыцца, раз і назаўсёды не ўдаецца. Хацелася б падкрэсліць, што, па сутнасці, рашэнне праблемы залежыць ад саміх працоўных калектываў, ад іх умення арганізаваць работу так, каб атрымаць даход і прыбытак. І самае першае, што для гэтага неабходна зрабіць – пазбавіцца ад безгаспадарчасці, недысцыплінаванасці і неабавязковасці. А гэта залежыць ад кожнага члена таго або іншага калектыву.

Паважаныя жыхары раёна!

Мы ўступілі, бадай, у самую адказную пару – пару ўборкі ўраджаю. Ад таго, наколькі арганізавана і эфектыўна мы здолеем сабраць і захаваць вырашчанае, залежыць дабрабыт раёна, а значыць, і дабрабыт яго жыхароў. Сельская гаспадарка дае работу не толькі тым, хто жыве ў вёсках, а і многім гараджанам, памятайце пра гэта.

Хачу звярнуцца да тых, хто непасрэдна заняты на жніве: камбайнераў, вадзіцеляў, машыністаў зернетакоў, рамонтнікаў, спецыялістаў гаспадарак. Менавіта ад вас залежыць вынік шматмесячнай хлебаробскай працы, у тым ліку і вашай асабістай. Заклікаю вас зрабіць усё, каб захаваць ураджай!

Звяртаюся таксама і да гараджан, работнікаў усіх прадпрыемстваў і арганізацый раёна, да навучэнцаў школ з просьбай аказаць пасільную дапамогу гаспадаркам ва ўборцы ўраджаю. Гэтая дапамога ім асабліва неабходна зараз.

Заклікаю ўсіх працаўнікоў раёна да адказнай і арганізаванай работы! Паўтару яшчэ раз: любыя планы мацуюцца справамі.

Як працуецца, як жывецца?

## "Мы і даглядчыкі, і цялятніцы, але ж мы і людзі.."

Эфектыўнасць любой вытворчасці залежыць у асноўным ад чалавека, ад яго прафесіяналізму, яго адносін да справы. Асабліва гэта бачна ў жывёлагадоўлі, дзе пры аднолькавай тэхналогіі вырошчвання, пры аднолькавых рацыёнах кармлення – вынікі розныя.

Але не толькі па рознаму могуць адносіцца "радавыя" жывёлаводы да сваіх абавязкаў, і ў кіраўнікоў і спецыялістаў гаспадарак таксама могуць быць неаднолькавыя адносіны да тых, хто круглы год даглядае, корміць жывёлу і часам па некалькі месяцаў не атрымлівае зарплату.

Яшчэ ў "застойныя" гады на кожнай ферме былі зроблены пакоі для адпачынку. Тут былі вывешаны на дошках вытворчыя паказчыкі жывёлагадоўлі, тут віншавалі перадавікоў фермы, спраўлялі святы і проста збіраліся падзяліцца навінамі, абмеркаваць вясковыя падзеі. У многіх такіх пакоях меўся тэлевізар. Жывёлаводы марылі аб душавых, санвузлах. І яны на той дзень шмат дзе былі.

Захаваліся і зараз у некаторых гаспадарках такія пакоі. У калгасе "XVIII партз'езд" на ферме ў вёсцы Харкаўка і тэлевізар ёсць, і крэслы. Віншаванні з днём нараджэння, распарадак працоўнага дня. І букет кветак на стале. Прыемна і ўтульна тут.

Асінаўскі жывёлагадоўчы комплекс пачалі будаваць якраз на мяжы "застойных" і "перабудовачных" гадоў. Не ведаю, па праекту, можа, і былі тут запланаваны і душавыя, і пакоі адпачынку, але ж на сёння з 6 вытворчых памяшканняў дзейнічаюць толькі 3. І канца гэтай будоўлі стагоддзя ці нават тысячагоддзя не бачна, як не бачна і самых простых і неабходных зручнасцяў для работнікаў. Таму і гутарку з галоўным заатэхнікам Сяргеем Паўлавічам Вараб'ёвым, брыгадзірам Валянцінай Аляксееўнай Вранчан і цялятніцамі мы вялі, падпіраючы плячыма вароты на ферме. Пра які тут тэлевізар можна марыць, калі нават кутка, дзе пераапрануцца, няма?! Няцяжка ўявіць сабе такую карціну – амаль за 8 кіламетраў з Нежкаўкі прыехала на веласіпедзе цялятніца Марыя Уладзіміраўна Новікава. Прысесць бы жанчыне, хоць хвіліну адпачыць, але на што? А яна працуе тут з самага адкрыцця першага памяшкання, і працуе старанна. Так, за чэрвень сярэднямесячныя прывагі ў яе групе цялят склалі 520 грамаў на галаву. Па выніках за гэты месяц – яна лепшая сярод цялятніц, таму атрымала прэмію – 5 тысяч за прывагі больш 400 грамаў і 2600 за самыя большыя прывагі па ферме.

Добра працуюць Валянціна Канстанцінаўна Уласенка, Антаніна Васільеўна Шведава. Нязменна працуе "ўніверсальны" слесар Сяргей Максімавіч Стральцоў, бо ён і кармы цялятам развязе, і адрамантуе калі якая тэхніка сапсуецца.

Зараз большасць жывёлы знаходзіцца на выпасе, у памяшканнях утрымліваюцца толькі 415 галоў самых маленькіх. Але і сёння тут адчуваецца недахоп працоўных рук. Па словах цялятніц, працуюць яны без выхадных, бо падмяніць іх няма каму. А лета – гарачая пара для сялян. І сена для асабістага падвор'я нарыхтаваць неабходна, і агарод дагледзець. Вострае пытанне з кадрамі ў жывёлагадоўлі пацвердзіў і галоўны заатэхнік С.П.Вараб'ёў. Замяніць або даць выхадны дзень няма магчымасці і пастухам, і даяркам. Атрымліваецца, што чалавека нельга звольніць нават па прычыне п'янства і нявыхаду на работу на працягу некалькіх дзён, бо ўсё роўна на яго месца няма каго паставіць.

Не хапае ў калгасе і ветспецыялістаў. Гэта даўняя праблема гаспадаркі. Уся надзея на выпускнікоў Клімавіцкага сельгастэхнікума. Дзве дзяўчыны-ветфельчары быццам бы павінны прыехаць адтуль у калгас.

Цялятніцы, між іншым, заўважылі, што з будоўляй новых дамоў іх вёска пачала маладзець. Вось прыехала з далёкага Казахстана брыгадзір В.А. Вранчан, пасля заканчэння Горацкай сельгасакадэміі працуе толькі два месяцы галоўны заатэхнік С.П.Вараб'ёў. Здадзены 10 кватэр (праўда, там яшчэ шэраг недаробак, няма вады і газу) і спецыялісты спадзяюцца, што праўленне калгаса ім выдзеліць жыллё.

У пакоі, дзе стаяў халадзільнік з малаком для цялят, біклагі з перагонам, на сцяне пад шклом віселі некалькі паперак. Спадзеючыся, што тут прачытаю рацыён цялят, распарадак працоўнага дня, я падышла да стэнда. Толькі ж на гэтых аркушах стаяў подпіс яшчэ былога кіраўніка гаспадаркі Ф.Г.Казлова, а рацыён быў складзены... на мінулае зімова-стойлавае ўтрыманне жывёлы. Гэта ў ліпені!.. Брыгадзір працуе крыху больш за паўгода, заатэхнік толькі паспеў азнаёміцца з гаспадаркай. Думаецца, што гэтыя паперкі заменяць. Вось толькі ці зменяцца адносіны да людзей...

**Г.ДУХОЎСКАЯ.**



Кожную работу трэба паважаць, калі яна дазваляе зарабіць на пражыццё. І часам не толькі сабе, а і сваім блізкім. Менавіта гэтага прынцыпу прытрымліваецца і Уладзімір Саўкін, які вось ужо другі год запар пасвіць цёлак у калгасе "Галавенчыцы".

Хоць гаспадарка і не асабліва пакутвала ад недахопу кармоў у мінулую зімоўку, аднак тут летні перыяд імкнуцца выкарыстаць спаўна для нагулу жывёлы. У статку з 200 галоў, якія пасвіць У.Саўкін, гэта ўдаецца зрабіць.

**НА ЗДЫМКУ: У.Саўкін на сваім рабочым месцы.**

**Фота В.ШУМАНСКАГА.**

## ЗАХАВАНАСЦЬ ЖЫВЁЛЫ – ПАД ПІЛЬНАЙ УВАГАЙ

У нумары раённай газеты "Іскра" за 10 ліпеня бягучага года быў змешчаны артыкул **"Куды дзяваецца паўшая жывёла"**, у якім уздымаліся праблемы ўліку і ўтылізацыі паўшай жывёлы як у грамадскім, так і ў прыватным сектарах раёна. На гэту публікацыю рэдакцыя атрымала адказ за подпісам начальніка райсельгасхарча **А.А.БОЙКІ.**

У адказе гаворыцца, што згодна з указаннямі Магілёўскага абласнога ўпраўлення статыстыкі ад 28 красавіка 2000 года зменена методыка вызначэння паказчыкаў "падзёж і гібель жывёлы" па дзяржаўнай справаздачнасці. У сувязі з чым па выніках 4 месяцаў бягучага года ў падзёж уключаны вымушаны забой жывёлы, мяса якой прызнана непрыдатным у ежу. У гэтую ж справаздачнасць уключаецца жывёла, тушы якой перапрацаваны на мяса-касцявую муку.

На сельскагаспадарчых прадпрыемствах раёна за 6 месяцаў бягучага года пала або загінула 1095 галоў буйной рагатай жывёлы, у тым ліку ў гэтую лічбу ўключана 621 галава вымушана забітай буйной рагатай жывёлы, якая прызнана ветспецыялістамі непрыдатнай у ежу людзям. Варта падкрэсліць, што падзёж буйной рагатай жывёлы ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года зменшыўся на 238 галоў або на 18 працэнтаў.

Свіней пала за першае паўгоддзе бягучага года 959 галоў, што на 96 галоў або на 11 працэнтаў больш аналагічнага перыяду мінулага года. Павелічэнне падзяжу ў асноўным адбылося за лік калгаса "Антонаўскі", у якім гэты паказчык павялічыўся на 27 працэнтаў. Галоўнай прычынай росту падзяжу на свінакомплексе калгаса "Антонаўскі" стала нізкая забяспечанасць камбікормам і кармленне, што называецца, "з калёс". (Няўжо гэтую фразу ў адказе трэба разумець, што свінні на комплексе дохлі ад голаду? – **рэд.**).

Чавускі раённы аддзел статыстыкі штомесячна прадстаўляе райсельгасхарчу інфармацыю аб колькасці паўшай жывёлы на сельскагаспадарчых прадпрыемствах, у тым ліку ўказваецца і колькасць вымушана забітай жывёлы, мяса якой непрыдатна ў ежу людзям і выкарыстана на тэхнічную перапрацоўку.

**Газета выступіла. Што зроблена?**

Згодна з ветэрынарным заканадаўствам і Законам РБ "Аб ветэрынарнай справе" пахаванне трупаў сельскагаспадарчых і дзікіх жывёлін робіцца на жывёламогільніках. Адпаведна апошнім указанням спальваюцца толькі трупы жывёлін, якія загінулі ад вострых інфекцыйных захворванняў. На тэрыторыі раёна на ўліку 77 жывёламогільнікаў. Гэта ў сярэднім па 3,5 могільніка на адну гаспадарку. Так, у саўгасе "Савецкая Беларусь" маецца 12 жывёламогільнікаў, у калгасе "Раста" – 3, у "Асінаўскім" – 3 і г. д. Для ўладальнікаў жывёлы г. Чавусы жывёламогільнік маецца за льнозаводам.

Кантроль за ўтрыманнем жывёламогільнікаў ажыццяўляе ветнагляд раёна. За дрэнны стан гэтых аб'ектаў за 6 месяцаў бягучага года выдадзена 8 прадпісанняў. За нездавальняючы стан кантэйнераў па збору трупаў на свінакомплексе калгаса "Антонаўскі" галоўны ветурач комплекса аштрафаваны. За няправільнае захаванне трупаў жывёлы да ўскрыцця аштрафавана таксама загадчыца комплекса "Бынава" калгаса "Асінаўскі".

Усяго ў першым паўгоддзі за нездавальняючае санітарнае ўтрыманне маладняку буйной рагатай жывёлы, што прывяло да яго падзяжу, аштрафавана 33 чалавекі ў 12 гаспадарках. Апроч таго пакараны матэрыяльна праўленнямі калгасаў 33 чалавекі ў 6 гаспадарках. Перададзены матэрыялы ў пракуратуру раёна на 12 чалавек з 6 гаспадарак. Частка матэрыяльных страт спагнана з вінаватых судом.

Мяса ад вымушана забітай жывёлы ў гаспадарках раёна і з забойнага цэха аддзела нарыхтовак райпа, якое прызнана непрыдатным для ўжывання ў ежу, захоўваецца ў асобнай секцыі халадзільніка райпа.

Трупы свіней комплекса калгаса "Антонаўскі" ўтылізуюцца ў дзвюх спецыяльных ямах Бекары (на момант "знаёмства" карэспандэнта "Іскры" з гэтымі ямамі яны да краёў былі запоўнены вадой; калі ямы сталі дзеючымі, то гэта добра – **рэд.**). Трупы таксама збіраюцца ў кантэйнеры і адпраўляюцца на Бялыніцкі ўтыльзавод два разы ў тыдзень.

Пытанні падзяжу і іншых форм непрадукцыйнага выбыцця жывёлы па выніках першага паўгоддзя былі абмеркаваны на савеце райсельгасхарча з удзелам кіраўнікоў і спецыялістаў калгасаў і саўгаса. Да вінаватых былі прыменены меры дысцыплінарнага ўздзеяння.

